


# ФРАКЦЫЯ

На цяперашнім трэцім з'ездзе БГКТ справы не пойдуць так лёгка, як у мінулых гадах, таму што на гэтым з'ездзе будзе дзейнічаць апазіцыя з нашай вёскі.

У нашай фракцыі няма левых і правых схільнасцей. Мы выбралі палітыку простую, як дуга, і ставім пытанне проста: патрэбны старшыня, ці не. Калі маем дэмакратыю, дык старшыня тут лішні, даволі таго, што члены праўлення маюць галовы, дык навошта ж тады над іх галовамі яшчэ галава старшыні?

Скарачэнне штатаў — наш просты абавязак у кампаніі барацьбы з бюракратызмам. Толькі наша бабка Матруна супраць фракцыі. Гаворыць: адна галава, добра, а дзве — яшчэ лепш. Паводле бабкі, павінна быць трое старшынь. Адзін старшыня будзе кіраваць фінансамі і наглядаць, каб ніводзен грош з нашых членскіх узносаў не закаціўся. Другі старшыня будзе гаварыць на сходах, канферэнцыях, у аўтобусах і наогул усюды, дзе можна гаварыць. А ў нас ёсць аб чым разводзіцца. Моладзь наша падрастае, вершы пачынае пісаць аб траўцы і іншых кветках. Мастакоў — самародкаў мы маем, якія па-беларуску малююць. Ды ці ж пералічым усё, аб чым гутарыць можна? Трэці старшыня будзе думаць. Сядзіць — думае, ляжа — думае, устане — думае як зрабіць тое ці іншае. Думаць старшыні ёсць над чым. Трэба прыдумаць, як бы хутчэй дзеці падраслі і бацькам дапамагаць сталі. Выдумаць трэба, як на наступным з'ездзе без крытыкі абыйсціся, ну і пара падумаць, як тут наша Таварыства ў сусветным маштабе паказаць. Напрыклад: Мазоўша па Японіям раз'язджаецца, а нашы артысты бяруць візы кароткія — да Гарадка і Мілейчыц, быццам нельга выступаць на Мадагаскары, адкуль крытыка не даязджае.

Зразумела, асноўным на з'ездзе будзе — ці адобрым мы дзейнасць праўлення. Таму перад з'ездам члены праўлення і ў сне шапталі: «Быць ці не быць?» Мы на фракцыйным сходзе пытанне аб даверы к праўленню ўзнімалі, аднак нічога не вырашылі. Дэбаты на з'ездзе будуць гарачыя, аб тым пастараецца наша фракцыя.

Трэба прачасаць гаспадарку Бэтэскі. Што гэта за гаспадарка, калі да гэтай пары нават трактара не мае. А праўленню патрэбна было б пусціць па вуліцах горада прапагандавы трактар з напісам: «Беларускі культпрасвет».

Няхай бы ездзіў трактар з грукатам і паказваў людзям нашы адносіны да механізацыі.

Асноўнае яшчэ — гэта пытанне аб звычайных членах нашага Таварыства. Новыя членскія білеты мы атрымалі, але гэта мала. Трэба разгарнуць усведамляючую работу аб свядомым мацярынстве і арганізаваць практычныя курсы.

Ад імя нашай фракцыі на з'ездзе выступіць бабка Матруна. Тады не ў аднаго валасы дыбам устануць. Нашай бабкі не пераговорыш. Яна ўжо двух зяцёў на смерць загаварыла.

Дзядзька Лявась




## ПРЫВІТАЛЬНАЯ

(Спяваць на мелодыю «Бывайце здаровы»)

Вітаем сардэчна
Усіх дэлегатаў!
Сябры, запрашаем
Вас на дэбаты.
Даўно мы чакалі
На свята такое,
Таму выбачайце,
Што вас непакоім.

У дзейнасці вашай
Шырокае поле,
Няхай жа на славу
Грыміць ваша воля.
Па мовах гарачых
Успыхнула б праца,
Каб першымі з першых
Маглі вы назвацца

Каб згодна і разам
З сябрамі усімі
Хутчэй новы шлях
Будаваць для радзімы.
Каб песні над нівай
Луналі — не сваркі,
Каб мы сябравалі
Не толькі за чаркай.

Каб вы прыязджалі
Ў ГП часта ў госці,
І каб старшыня ваш
Не меў на вас злосці.
Не толькі праўленне,
Не толькі ўлады,
Каб вашаю працай
І мы былі рады.

Жадаем яшчэ вам
Усе выканаць планы,
Да новага з'езду
Каб плён быў чаканы.
Не будзе вам крыўды
Яшчэ і за тое,
Калі пашанцуе
Жніва ўдвоіць.

Дык будзьце здаровы.
Жывіце багата,
Ужо закрываем
Нашы дэбаты.

Запяваў КРОНКА

### КАСЦЫ

Касілі два касцы: бацька Уладзімір і сын Віця.
— Ой, — кажа бацька, — як жа мы мала накасілі!
— Э, — кажа сын, — вы стары, я малады, каму ж тут было касіць?

Макар Бэгакацёнак
Членаўка

### ПРАЦАВІТЫ

— Сябра, што ты рабіў?
— Чаго?!
— А ты, сябра?
— Дык я быў каля яго.

Базыль Праўленчын
Галаўнач

## САМАБСЛУГОЎВАННЕ

### ПАД ЯБЛЫНЯЙ

Ляжыць дзяцюк з дзяўчынай пад яблыняй і кажа:
— Вось добра было б, каб яблыка ўпала мне проста ў рот!
А дзяўчына:
— І ахвота табе гаварыць у гэтакую гарачыню!

Мікола Актыўневіч
Гайнаўка

### АСВЕЧАНЫ ЧАЛАВЕК

У вясковай святліцы закончыўся даклад прыезджага лектара. Двое слухачоў, выходзячы:
— О, гэта лектар дык лектар... Вучоны, няма што... І як гаворыць...
— Але, але... — згаджаецца другі. — Не тое, што ў нас у вёсцы. Што скажуць — усё ясна. А тут — дзве гадзіны слухаў, аж спацеў, але нічагуткі не ўцяміў. Адразу відаць, асвечаны чалавек.

Іван Магістрацюк
Вялікае Доктарава

### ВЫКРУЦІЎСЯ

Едзе шафёр машынай, а руль няспраўны. Вось ён ім і круціць па дарозе — то ўправа, то ўлева. А пасажыр, што ў кабіне сядзеў, і пытае:
— Чаго ты ім так круціш?
— А ты не бачыш, — адказвае шафёр, — я цвікі мінаю, каб не прапаролі шыны.

Славамір Старшыніч
Беласток

### КАМЯНІСТЫ ШЛЯХ «БЭТЭСКІ»



Старшыня «Бэтэскі»: — Нешта праз гэтыя акуляры дарогі не відна.

ПАРТРЭТ СТАРШАГА ІНСТРУКТАРА ГП БГКТ.




### ЗА СПРАВУ ФІЛЬМ-СЕАНСАЎ

Гарадскі аддзел у Беластоку не можа дабіцца залы на дэманстрацыю фільмаў.



Кастусь Хлябіч: — Няма ж, чуеце, іншай рады. Мо', браткі, гэты аргумент пасадзейнічае.

